ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” (БАЖ)

**Асвятленне парламенцкіх выбараў 2012 г. у беларускіх СМІ**
**Выніковы даклад**

*(31 ліпеня – 16 кастрычніка 2012 г.)*

## Уводзіны

У азначаны вышэй перыяд БАЖ – няўрадавая беларуская арганізацыя -- ладзіла маніторынг асвятлення ў беларускіх медыя парламенцкіх выбараў, што адбыліся 23 верасня 2012 г.

Маніторынг меў на мэце:

- *ацаніць паўнату асвятлення выбарчага працэсу ў беларускіх СМІ, а таксама яго адпаведнасць прынцыпам журналісцкай этыкі ды міжнародна прызнаным стандартам;*

- *прыцягнуць увагу журналісцкай супольнасці краіны да таго, што ўсебаковае і неперадузятае інфармаванне выбарцаў пра электаральны працэс, погляды кандыдатаў і іх прыхільнікаў – непасрэдны абавязак прафесійных медыя;*

- *прааналізаваць уплыў медыя на электаральны выбар.*

Даклад падсумоўвае вынікі маніторынгу, а таксама падае кароткі агляд ацэнак галасавання ды ўсёй выбарчай кампаніі, што з’явіліся ў беларускіх СМІ пасля галасавання і аб’яўлення яго афіцыйных вынікаў.

Аб’ектам маніторынгу былі 17 беларускіх СМІ, дзяржаўных і недзяржаўных, электронных і друкаваных, агульнанацыянальных і рэгіянальных[1] . Змест маніторынгаваных медыя аналізаваўся, базуючыся як на якасных, так і колькасных паказчыках, г. зн. -- на ацэнцы манеры рэпрэзентацыі суб’ектаў выбарчага працэсу ды падліку плошчы/часу, адведзеных выбарчай тэматыцы ў, адпаведна, друкаваных і электронных медыя.

## Асноўныя вынікі

Дзяржаўныя СМІ асвятлялі выбарчы працэс у традыцыйна мінімалісцкай манеры, г.зн., у шэрагу выпадкаў надаючы яму менш увагі, чым тэмам “Спорт” ці “Надвор’е”. Маргінальны характар асвятлення выявіўся і ў тым, што галоўнай дзеючай асобай быў Цэнтрвыбаркам, а не кандыдаты ці палітычныя партыі. Разам з тым ЦВК з’яўляўся і галоўнай крыніцай інфармацыі для дзяржаўных медыя.

У названых медыя дамінавала спрошчаная карціна рэпрэзентацыі выбарчага працэсу, г. зн., яны ясвятлялі дзейнасць пераважна пяці суб’ектаў, а менавіта *ЦВК (альбо акруговых*

---

[1] ***Электронныя медыя --*** *Беларусь 1 (навінная праграма “Панарама”); АНТ (навінная праграма “Наши новости”); Беларусь 1 (тыднёвая аналітычная праграма “В центре внимания”); Нацыянальнае радыё (1 праграма “Радыёфакт”); “ТРК “Гомель” – “Навіны Рэгіёна”; “Гомель FM” (“Навіны”); ТРК “Магілёў” (“Навіны Магілёў”); Абласное радыё “Навіны” (Магілёў).* ***Інтэрнэт-рэсурсы*** *--* www.naviny.by, www.belta.by. ***Друкаваныя СМІ –*** *“Беларусь сегодня”, “Народная воля”, “7 дней”, “Наша ніва”, “Комсомольская правда в Белоруссии” (таўстушка), “Гомельская праўда”, “Могилёвская правда”.*

*камісій), прэзідэнта, назіральнікаў з краін СНД, заходніх назіральнікаў і неперсаніфікаванага кандыдата*. Надзвычай характэрнай для манеры асвятлення была таксама акцэнтуацыя ўвагі на арганізацыйных і тэхнічных аспектах выбарчай кампаніі.

Што да манеры рэпрэзентацыі розных суб'ектаў выбарчага працэсу, то адмоўнай (асабліва ў пачатковы перыяд маніторынгу) была характарыстыка ролі і дзейнасці *заходніх назіральнікаў*. Пазітыўна і нейтральна дзяржаўныя медыя ацэньвалі дзейнасць ЦВК, прэзідэнта і назіральнікаў з краін СНД.

Прысутнасць у дзяржаўных СМІ апазіцыйных палітычных партый, прадстаўнікі якіх бралі ўдзел у выбарах, была мінімальнай. А калі пра іх і заходзіла гаворка, дык дзяржаўныя медыя рэпрэзентавалі іх пераважна ў адмоўным ці надзвычай адмоўным святле. І ніводнага разу ані прадстаўнікі апазіцыі, ані незалежныя эксперты і палітолагі, ані прадстаўнікі НДА не мелі голасу ў тых самых медыя. Аднабаковая падача інфармацыі, негатыўнае партрэтаванне апанентаў рэжыму і *заходніх назіральнікаў*, відавочная адсутнасць права на адказ ды рэтушаванне поглядаў і ацэнак прадстаўнікоў розных палітычных партый і іх прыхільнікаў гэтак жа сама, як і палярная рэпрэзентацыя *ўлады і апазіцыі, назіральнікаў (з краін СНД і заходніх)* -- характэрныя рысы асвятлення выбараў у дзяржаўных СМІ.

Дзяржаўныя медыя не забяспечылі агітацыйнай кампаніі належнай інфармацыйнай падтрымкі і не паспрыялі таму, каб як мага большая колькасць выбарцаў пазнаёмілася з перадвыбарчымі праграмамі кандыдатаў. Яны не анансавалі радыйныя і тэлевізійныя выступы і ўдзел у дэбатах канкрэтных кандыдатаў, не падавалі прозвішчаў, аніяк не акцэнтавалі ўвагу выбарцаў на іхняй партыйнай прыналежнасці. Запісы выступаў кандыдатаў і дэбатаў, у адрозненне ад іншых матэрыялаў, не былі выкладзены на вэб-старонках адпаведных каналаў. Праз такое асвятленне агітацыйнай кампаніі дзяржаўныя медыя фактычна імкнуліся не толькі маргіналізаваць галоўных дзеючых асобаў, але і адсланіць выбарцаў ад знаёмства з перадвыбарчымі праграмамі кандыдатаў ды ўдзелу ў іх абмеркаванні. Да таго ж, названыя медыя мелі магчымасць цэнзураваць выступы і дэбаты кандыдатаў, паколькі яны патраплялі ў эфір пасля папярэдняга запісу.

Параўнальна з дзяржаўнымі, недзяржаўныя медыя падавалі тэму выбараў у больш шырокім дыяпазоне і не абмяжоўваліся адно афіцыйнай інфармацыяй, што сыходзіла ад *ЦВК і ўладаў*. У шэрагу выпадкаў яны крытычна паставіліся да дзейнасці двух названых суб'ектаў, шырока пісалі пра выпадкі цэнзуры, але разам з тым для іхняй манеры рэпрэзентацыі розных суб'ектаў, параўнальна з дзяржаўнымі СМІ, характэрны больш збалансаваны падыход. Аднак відавочная адсутнасць інтрыгі і прадказальнасць вынікаў выбараў сталіся тымі фактарамі, якія абумовілі заўважную абыякавасць асвятлення выбарчай кампаніі ў недзяржаўных медыя.

"Стомленасць выбарамі", сцэнар якіх аніяк істотна не змяніўся (раўнуючы з папярэднімі), – агульны сімптом сёлетняй кампаніі ў асвятленні дзяржаўных і недзяржаўных СМІ.

Вынікі маніторынгу асвятлення паслявыбарчага перыяду аказаліся досыць нечаканымі: у адрозненне ад усіх папярэдніх кампаній, маніторынгаваных БАЖ, дзяржаўныя і недзяржаўныя медыя неўзабаве пасля дня галасавання страцілі цікавасць да выбарчай тэматыкі.

У наступным раздзеле дакладу канкрэтызуюцца і абгрунтоўваюцца выкладзеныя вышэй сцверджанні. А ў раздзеле **Высновы** будзе зроблена спроба асэнсавання тых зменаў, што адбыліся ў асвятленні выбарчай кампаніі.

**Канкрэтныя вынікі маніторынгу**

Ніжэй мы будзем абапірацца як на абагуленыя дадзеныя, так і на дадзеныя ўсіх чатырох этапаў маніторынгу.

Параўнанне дзвюх галоўных навінных праграмаў Беларускага тэлебачання *“Панарама” (Беларусь 1)* і *“Новости” (АНТ)* паказвае, што яны выбарам надалі прыкладна аднолькавую ўвагу. Першая (у перыяд з 31.07 па 21.09.2012) адвяла выбарчаму працэсу 7,18% часу, а другая – 5,68%. Пры гэтым спартовая тэматыка атрымала адпаведна 17,44% і 19,39% часу. А надвор’е – 2,76% і 3,36% часу. А ў праграме *“Радыёфакт” (Першы нацыянальны канал радыё)* надвор’е и спорт нават дамінавалі над выбарчай тэматыкай (10,32%, 9,41% і 6,81% адпаведна). Падобныя суадносіны былі характэрныя і для рэгіянальных электронных медыя.

Як адзначалася вышэй, дзяржаўныя электронныя медыя сканцэнтравалі сваю ўвагу на дзейнасці ЦВК, прадстаўнікі якой былі галоўнай крыніцай інфармацыі адносна фарміравання камісій, стварэння ініцыятыўных груп, вылучэння кандыдатаў, агітацыйнай кампаніі і т. п. Пры гэтым афіцыйныя прадстаўнікі ЦВК далёка не заўсёды прытрымліваліся нейтральнай пазіцыі. Вось адно з выказванняў сакратара ЦВК сп. Лазавіка: *“Я проанализировал выдвижение представителей в состав участковых комиссий по одному лишь 49 избирательному округу города Гродно. Объединенная гражданская партия для включения в участковые избирательные комиссии этого округа представила 18 кандидатур. Когда мы проанализировали, что ж это за граждане, оказалось, что из 18 -- 10 привлекались к уголовной и административной ответственности, 9 – нигде не работающие. Каким уважением, каким авторитетом пользуются эти люди среди избирателей? (...) И таким людям просто не место в избирательных комиссиях” (Беларусь 1, “В центре внимания” – 12.08.2012).*

У гэты ж перыяд маніторынгу дзяржаўныя электронныя медыя шырока знаёмілі сваіх гледачоў і чытачоў з наступнымі выказваннямі прэзідэнта датычна апазіцыі: *“Если бы сегодня наша, ну, оппозицией ее трудно назвать, но, наверное, там есть кто-то оппозиционно настроенный… ну вот, пятая колонна с оппозицией чувствовали, что они победят, они б никогда не говорили, что выборы не легитимные, ибо тогда и вы будете не легитимные. А раз так говорят, значит, они понимают, что в данной ситуации они пролетят, как фанера над Парижем... Их мышкование связано, поверьте, только с одним – другого, третьего нет: получить деньги. Хоть маленькие – сейчас Запад уже мало им дает – но хотя бы это на существование и для того, чтоб бензин купить на те автомобили, которые тоже Запад помог им купить, и особняки, которые они когда-то построили, обещая Западу, что они власть возьмут в Беларуси – Запад им дал большие деньги – они построили особняки – сегодня их надо содержать. Вот хотя бы эту долю им дал Запад – они готовы тут шуметь, кричать, взрывать, стрелять – что угодно делать – это их политика. (...) Все те же лица – замызганные, замусоленные, которые ездили и предавали страну. И травили народ” (Беларусь 1, “Панарама” -- 09.08.2012).*

Вызначанай выглядала і функцыя заходніх назіральнікаў: *“Пригласили, как вы видите, всех этих надсмотрщиков, кто был и кто не был у нас – пусть смотрят. Мы знаем, что они напишут, мы уже первые доклады и информацию получаем их – еще выборов нет, а мы уже прочитали. Мы принимали сознательное решение. Мы знаем, что они будут нас долбать, клепать, -- как бы мы ни провели эти выборы” (Беларусь 1, “Панарама” -- 09.08.2012).*

Асабліва негатыўна ў пачатковы перыяд маніторынгу (31.07 – 17.08.2012) дзяржаўныя тэлеканалы ацанілі ролю кіраўніка місіі назіральнікаў ПА АБСЕ: *“Маттео Мекаччи –*

*итальянский политик радикального толка. В своей стране выступает не столько за свободу слова, сколько высказывается за легализацию проституции, педофилии в интернете и лёгких наркотиков. Взгляды Мекаччи осуждает большая часть итальянского общества" (АНТ, "Наши новости" – 15.08.2012).*

Аднак другі этап маніторынгу (20 -- 31 жніўня 2012 г.) выявіў змяшчэнне акцэнтаў асвятлення кампаніі ў некаторых дзяржаўных СМІ, а менавіта пераважна нейтральную рэпрэзентацыю пэўных суб'ектаў выбарчага працэсу. У прыватнасці, гэта тычыцца навіннай праграмы *"Радыёфакт"*, газеты *"7 дней"* і, у нейкай ступені, рэгіянальных медыя. Такая тэндэнцыя была асабліва заўважная пры параўнанні з ідэалагізаванымі рэпрэзентацыямі суб'ектаў выбарчага працэсу ў праграме *"В центре внимания"*, а таксама з першым этапам маніторынгу, калі *апазіцыя* і *заходнія назіральнікі* рэпрэзентаваліся надзвычай негатыўна. І хаця дзяржаўныя СМІ працягвалі асвятляць дзейнасць *апазіцыі* ў адмоўным святле, манера рэпрэзентацыі заходніх назіральнікаў змянілася і сталася пераважна нейтральнай.

Разам з тым для тых жа самых медыя заставалася характэрнай спрошчаная рэпрэзентацыя выбарчага працэсу праз ігнараванне значнай колькасці палітычных і непалітычных суб'ектаў, заангажаваных у парламенцкую кампанію. Да прыкладу, праграма *"Панарама" (Беларусь 1)* за ўвесь перыяд маніторынгу рэпрэзентавала 23 суб'екты, але асноўную долю часу атрымалі *ЦВК* разам з акруговымі і ўчастковымі камісіямі (амаль 37%), *назіральнікі з краін СНД* (амаль 11,5%), *прэзідэнт* (11,1%), *заходнія назіральнікі* (амаль 8,5%). Астатнія суб'екты (*неперсаніфікаваны кандыдат, палітычныя партыі* – па некалькі адсоткаў), а *апазіцыйныя палітычныя партыі* – па некалькі дзясятых адсоткаў).

Зарэгістраваныя кандыдаты атрымалі магчымасць звярнуцца да выбарцаў праз дзяржаўныя СМІ. Параўнальна з парламенцкімі выбарамі 2008 г., яны мелі доступ да тэлеэфіру ў больш рэйтынгавы час, а менавіта -- з 19.00 да 20.00 (у папярэдняй кампаніі эфірны час па тэлебачанні прадастаўляўся з 18.00 да 18.30, а ў вялікіх гарадах і Мінску – з 17.30 да 18.30). Рэйтынгавы час быў адведзены кандыдатам і на радыё (з 18.00 да 19.00). Аднак выступы кандыдатаў трансляваліся ў запісе, што зрабіла магчымым цэнзураванне іхняга зместу.

Паводле старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі, у эфіры не прагучалі 32 звароты кандыдатаў, а газеты не надрукавалі 11 перадвыбарчых праграм прадстаўнікоў гэтай партыі (http://naviny.by/rubrics/opinion/2012/09/14/ic_articles_410_179201/). Факт цэнзуры прызнала і старшыня ЦВК: *"Чаму яны знятыя? Таму што пры дадзеных дэбатах ажыццяўлялася агітацыя за байкот выбараў"* (http://www.svaboda.org/content/article/24704611.html).

Да таго ж маніторынгаваныя дзяржаўныя медыя не анансавалі радыйныя і тэлевізійныя выступы і ўдзел у дэбатах канкрэтных кандыдатаў, не падавалі прозвішчаў, ніяк не акцэнтавалі ўвагу выбарцаў на іхняй партыйнай прыналежнасці. А абмяжоўваліся адно ўказаннем нумару выбарчай акругі і датай эфіру (гл., напрыклад, http://www.tvr.by/rus/raspisanie-debaty.asp). Праграмы перадач тых тэлевізійных каналаў, дзе мелі адбыцца выступы і дэбаты, пазначалі адведзены час не як "Выступы кандыдатаў у дэпутаты" ці "Дэбаты", а як *"Выборы-2012"*. Запісы выступаў кандыдатаў і дэбатаў не з'явіліся на вэб-старонках адпаведных дзяржаўных каналаў.

Такое асвятленне выбарчага працэсу добра карэлюецца з ацэнкай характару парламенцкай кампаніі, дадзенай старшынёй ЦВК спн. Ярмошынай: *"Все-таки это не выборы президента, когда кандидаты представляют всю страну в целом, и, разумеется, представляют достаточно различные точки зрения. Что же касается нынешних*

*выбороў, то здесь будут дебатироваться прежде всего проблемы, интересные для избирателей каждого избирательного округа. Поэтому, вполне возможно, они будут носить достаточно камерный характер". (Беларусь 1, "Панарама", 23.08.2012).* Гэткім чынам, дзяржаўныя медыя асвятлялі выбарчы працэс не як шырокую палітычную кампанію ці падзею агульнанацыянальнага маштабу, а як камернае, лакальнае мерапрыемства.

Невыразнае асвятленне агітацыйнай кампаніі, а таксама цэнзураванне выступаў кандыдатаў было скіраванае на змяншэнне напалу перадвыбарчай барацьбы ды дэпалітызацыю выбараў. Сімптаматычна, што з 13 выбарчых акругаў, якія налічваюцца ў Магілёўскай вобласці, у дэбатах па тэлебачанні ўзялі ўдзел кандыдаты з чатырох акругаў, а ў дэбатах на радыё -- толькі з трох. У асвятленні дзяржаўных СМІ парламенцкія выбары выглядалі кампаніяй, пазбаўленай палітычнай барацьбы, сапраўднага сутыкнення палітычных платформ, поглядаў кандыдатаў ды розных меркаванняў выбарцаў.

Сярод недзяржаўных медыя найбольшую ўвагу выбарчай тэматыцы надало інтэрнэт-выданне *naviny.by*. Яно асвятляла дзейнасць 34 суб'ектаў выбарчай кампаніі. А ўвага да розных суб'ектаў размяркоўвалася без характэрнага для дзяржаўных медыя дысбалансу на карысць *прэзідэнта і ЦВК*. Выданне таксама пазбягала дэперсаналізацыі кандыдатаў ды іншых палітычных суб'ектаў. Не аддавала перавагі хоць якім палітычным партыям ці НДА.

Папяровыя недзяржаўныя выданні падалі значна вузейшую за *naviny.by* панараму выбарчага працэсу: *"Народная воля"*, напрыклад, пісала пра 18 дзеючых асобаў выбарчага працэсу. Але па плошчы і колькасці матэрыялаў, прысвечаных выбарчай тэматыцы, яна заўважна апярэджала прэзідэнцкую штодзённую газету *"Беларусь сегодня"*. Тыднёвік *"Наша ніва"* не надаў тэме выбараў шырокай увагі.

Узгаданыя вышэй недзяржаўныя выданні хоць і ставіліся крытычна датычна *ўлады і ЦВК*, аднак былі крытычныя і ў дачыненні да апазіцыі, як і іншых суб'ектаў. Выключэннем тут была *"Комсомольская правда в Белоруссии" (таўстушка)*, якая ў нейтральным ключы падавала інфармацыю, што сыходзіла ад Цэнтрвыбаркама.

Як ужо адзначалася, у паслявыбарчы перыяд дзяржаўныя і недзяржаўныя медыя даволі хутка страцілі цікавасць да прамінулых выбараў. А пададзеныя ў іх ацэнкі тычыліся дэмакратычнасці/недэмакратычнасці выбарчай кампаніі, яе адпаведнасці/неадпаведнасці беларускаму заканадаўству і міжнародным стандартам, яўкі выбарцаў ды працэдуры падліку галасоў. Агучаныя ацэнкі істотна розніліся.

Дзяржаўныя медыя сцвярджалі, што выбары адбыліся ў поўнай адпаведнасці з беларускім заканадаўствам: *«Выборы в Беларуси соответствуют национальному законодательству, а не зарубежной ведомственной инструкции – Ермошина»* (http://www.belta.by/ru/all_news/politics/Vybory-v-Belarusi-sootvetstvujut-natsionalnomu-zakonodatelstvu-a-ne-zarubezhnoj-vedomstvennoj-instruktsii---Ermoshina_i_609626.html).

*"Парламенцкія выбары ў Беларусі прайшлі ў строгай адпаведнасці з заканадаўствам... Пра такія высновы місіі назіральнікаў ад СНД кіраўніку дзяржавы расказаў Сяргей Лебедзеў" (Радыёфакт, Першы канал нацыянальнага радыё, 25.09.2012).*

Тыя самыя медыя са спасылкай на *назіральнікаў ад краін СНД* падкрэслівалі дэмакратычны характар выбараў і іх адпаведнасць міжнародным стандартам: *«Парламентские выборы в Беларуси соответствовали общепризнанными мировым нормам - миссия СНГ (ВИДЕО)»*

(http://www.belta.by/ru/all_news/politics/Parlamentskie-vybory-v-Belarusi-sootvetstvovali-obschepriznannymi-mirovym-normam---missija-SNG-VIDEO_i_609619.html).

А *«Наблюдатели от ПС Союзного государства констатировали создание в Беларуси всех условий для проведения справедливых и открытых выборов»* (http://www.belta.by/ru/all_news/politics/Nabljudateli-ot-PS-Sojuznogo-gosudarstva-konstatirovali-sozdanie-v-Belarusi-vsex-uslovij-dlja-provedenija-spravedlivyx-i-otkrytyx-vyborov_i_610022.html).

У сувязі з тым, што шэраг апазіцыйных партый выступіў з ідэяй байкоту выбараў, яўка выбарцаў у дзень галасавання была даволі істотнай тэмай, на якой сваю ўвагу акцэнтавалі як недзяржаўныя, так і дзяржаўныя СМІ. Вось некаторыя характэрныя пааведамленні: *“Высокая яўка выбаршчыкаў адзначана ва ўсіх рэгіёнах краіны. Сярод лідараў – Віцебская вобласць”. “У Магілеўскай вобласці выбіралі 13 дэпутатаў. ... Бліжэй да 11 гадзін можна было нават убачыць чэргі перад кабінкамі для галасавання”. “Жыхары ўсіх раёнаў Гомельскай вобласці праявілі высокую актыўнасць. На многіх участках 50% яўка была адзначаная яшчэ ў першай палове дня”. “Яўка ў Мінску традыцыйна не самая высокая, аднак па ўсіх акругах жыхары сталіцы выканалі свой грамадзянскі абавязак” (“Радыёфакт”, Першы канал Беларускага радыё, 24.09.2012).*

Дзяржаўныя медыя таксама звярнулі ўвагу на празрыстасць працэдуры падліку галасоў: *«Игорь Борисов. Наблюдатели имели возможность визуально следить за подсчетом голосов»* (http://www.belta.by/ru/person/opinions/Igor-Borisov_i_513325.html).

Разам з тым яны крытычна паставіліся да вынікаў назірання БДІПЧ АБСЕ: *«Ермошина: незадолго до дня голосования наблюдателей от ОБСЕ накачивали негативом»* (http://www.belta.by/ru/all_news/politics/Ermoshina-nezadolgo-do-dnja-golosovanija-nabljudatelej-ot-OBSE-nakachivali-negativom_i_609734.html).
Дзейнасць місіі была таксама раскрытыкаваная і вуснамі Міністэрства замежных спраў Расіі: *“МИД России критикует политизированный подход БДИПЧ ОБСЕ к оценке прошедших в Беларуси парламентских выборов… В комментарии, в частности, говорится: “К сожалению, как обычно в таких случаях, диссонансом прозвучало особое мнение Бюро по демократическим институтам и правам человека (БДИПЧ) ОБСЕ, в предварительных выводах которого вновь возобладал политизированный подход…” (Беларусь сегодня, 26.09.2012).*

Прычыну крытычнага стаўлення да дзейнасці місіі прасвятліла недзяржаўнае інтэрнэт-выданне *naviny.by*:

*«Наблюдатели ОБСЕ не увидели свободных выборов в Беларуси»* (http://naviny.by/rubrics/elections/2012/09/24/ic_articles_623_179324/);

*«Мекаччи заявил о невозможности наблюдения за выборами в воинских частях из-за неверной информации»* (http://naviny.by/rubrics/elections/2012/09/27/ic_news_623_402414/);

*«ЕС: выборы в Беларуси проходили на фоне общего климата репрессий»* (http://naviny.by/rubrics/elections/2012/09/25/ic_news_623_402199/).
Негатыўную ацэнку выбарам далі і беларускія назіральнікі: *«Гулак: на выборах были нарушены не только стандарты ОБСЕ, но и белорусское законодательство»* (http://naviny.by/rubrics/elections/2012/09/24/ic_news_623_402151/);
*«За справедливые выборы»: ни на одном избирательном участке Могилева не было открытого подсчета голосов»* (http://naviny.by/rubrics/elections/2012/09/25/ic_news_623_402300/).

Да таго ж неабходна адзначыць, што, у адрозненне ад дзяржаўных, недзяржаўныя СМІ падавалі ацэнкі, якія належалі самым розным суб'ектам выбарчага працэсу.

Недзяржаўныя медыя друкавалі таксама і розныя матэрыялы, якія тычацца яўкі выбарцаў ды заўважалі несупадзенні ў падліку колькасці выбарцаў, што прыйшлі на выбарчыя ўчасткі: *«Расхождение между цифрами явки у наблюдателей и избирательных комиссий в день голосования — 173%»*
(http://naviny.by/rubrics/elections/2012/09/25/ic_news_623_402200/).

## Высновы

Параўноўваючы манеры асвятлення парламенцкіх кампаній 2008 і 2012 гг., мы ў адным з прамежкавых бюлетэняў адзначалі адсутнасць хоць-якіх істотных зменаў. Разам з тым можна казаць і пра некаторыя новыя рэаліі, якія сталіся відавочнымі на падставе атрыманых вынікаў маніторынгу:

• ужываная дагэтуль вертыкальная мадэль правядзення выбараў, у рэалізацыі якой дзяржаўныя медыя адыгрываюць ключавую ролю, заўважна паўплывала на дэпалітызацыю беларускага грамадства ды падзенне электаральнай актыўнасці не толькі шараговых выбарцаў, але і такіх важных удзельнікаў выбарчага працэсу, як кандыдаты ды розныя палітычныя партыі;

- тая ж самая мадэль кантраляваных выбараў спрычынілася да пашырэння адчужанасці сярод выбарцаў і, цалкам верагодна, павялічыла дыстанцыю паміж дзеючай уладай і электаратам;

- адсутнасць хоць якой палітычнай інтрыгі і рэальнай палітычнай барацьбы, якая гэтай мадэллю штучна стрымліваецца, сталася таксама адной з галоўных прычынаў шэрай і панылай кампаніі асвятлення выбараў у дзяржаўных і недзяржаўных СМІ;

- парадаксальна, але гэтая мадэль, скіраваная на дэпалітызацыю грамадства, прывяла да таго, што падчас апошняй кампаніі градус негатыўных прапагандысцкіх ацэнак апанентаў рэжыму быў заўважна ніжэйшы параўнальна з кампаніяй 2008 г.;

- нарэшце, янаператварыла выбары ў рытуальнае дзеянне, у якім яго ўмоўнасць відавочная калі не для ўсіх, дык для большасці ўдзельнікаў. Паспешлівае "падвядзенне" вынікаў выбараў у СМІ і жаданне хутчэй забыцца на іх пацвярджаюць рытуальны характар гэтага дзеяння. І, як сведчаць апошнія матэрыялы маніторынгу паслявыбарчага перыяду, дзяржаўныя медыя (са спасылкай на прэзідэнта) пачалі пісаць пра неабходнасць мадэрнізацыі палітычнай сістэмы краіны. Гаворка, зразумела, не ідзе пра яе лібералізацыю.

Мінск, 16 кастрычніка 2012 г.

## BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012

**BELTA.BY**
**31.07 - 21.09.2012**

**Адзінка вымярэння - колькасьць знакаў**






# BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012

**“Советская Белоруссия: Беларусь сегодня”**

31.07 - 21.09.2012

**Адзінка вымярэння - см. кв.**






## BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012

**Панарама**

31.07 - 21.09.2012

**Адзінка вымярэння - секунда, хвіліна, гадзіна (0:02:45)**






## BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012

**Панарама**
31.07 - 21.09.2012

**Адзінка вымярэння - секунда, хвіліна, гадзіна (0:02:45)**



## BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012

**ОНТ НАВІНЫ**

31.07 - 21.09.2012

**Адзінка вымярэння - секунда, хвіліна, гадзіна (0:02:45)**






**BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012**

**ОНТ НАВІНЫ**

31.07 - 21.09.2012

**Адзінка вымярэння - секунда, хвіліна, гадзіна (0:02:45)**



**BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012**

**“Народная Воля”**

31.07 - 21.09.2012

**Адзінка вымярэння - см. кв.**






# BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012

**NAVINY.BY**

31.07 - 21.09.2012

**Адзінка вымярэння - колькасьць знакаў**






# BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012

**“Могилёвская Правда”**
31.07-21.09.2012

**Адзінка вымярэння - см. кв.**






**BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012**

**ТРК "Магілёў"/ Абласное радыё "Навіны"**

31.07 - 21.09.2012

**Адзінка вымярэння - секунда, хвіліна, гадзіна (0:02:45)**






**BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012**

**ТРК “Магілёў”/ Абласное радыё “Навіны”**
31.07 - 21.09.2012

**Адзінка вымярэння - секунда, хвіліна, гадзіна (0:02:45)**



**BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012**

**“Першы нацыянальны канал беларускага радыё” – “Радыёфакт”**

31.07 - 21.09.2012

**Адзінка вымярэння - секунда, хвіліна, гадзіна (0:02:45)**






## BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012

**“Першы нацыянальны канал беларускага радыё” – “Радыёфакт”**

31.07 - 21.09.2012

**Адзінка вымярэння - секунда, хвіліна, гадзіна (0:02:45)**



# BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012

**"Комсомольская правда"**

31.07 - 21.09.2012

**Адзінка вымярэння - см. кв.**






# BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012

**NAVINY.BY**

31.07 - 21.09.2012

**Адзінка вымярэння - колькасьць знакаў**






**BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012**

**"НАША НІВА"**

31.07 - 21.09.2012

**Адзінка вымярэння - см. кв.**






# BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012

**“Народная Воля”**

31.07 - 21.09.2012

**Адзінка вымярэння - см. кв.**




